ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СУБОТА, 22 ліпеня 2000 года

№ 56 (8125)

Раённая грамадска-палітычная газета

Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР

Цана 24 руб.

# УМОВЫ раённага спаборніцтва занятых на жніве 2000 года

### 1. У спаборніцтве на ўборцы ўраджаю збожжавых і зернебабовых удзельнічаюць:

*— калгасы, саўгасы, сельскагаспадарчыя калектыўныя прадпрыемствы, Жыліцкі сельскагаспадарчы каледж;*

*— камбайнеры, памочнікі камбайнераў, вадзіцелі, занятыя на адвозцы збожжа на збожжаток, на Бабруйскі камбінат хлебапрадуктаў, машыністы збожжатакоў.*

### 2. Пераможцамі спаборніцтва будуць прызнаны:

**а)** *гаспадаркі, якія:*

*— атрымаюць найбольшую ўраджайнасць збожжавых культур у адносінах да разліковага ўзроўню;*

*— выканаюць дзяржзаказ па рэалізацыі прадукцыі;*

*— не дапусцяць зніжэння вытворчасці збожжа;*

**б)** *экіпажы, якія на камбайнах "Дон-1500", "Е-516" намалацілі не менш 750 тон збожжа;*

**в)** *экіпажы, якія на камбайнах "Ніва" намалацілі не менш 350 тон збожжа;*

**г)** *вадзіцелі, незалежна ад маркі машын, якія перавезлі ад камбайнаў не менш 850 тон збожжа; на Бабруйскі камбінат хлебапрадуктаў — не менш 1000 тон збожжа;*

**д)** *машыністы збожжатакоў, якія забяспечылі бесперабойную работу збожжатакоў, якасную прыёмку і перапрацоўку збожжа па зададзеных тэхналогіях, дасягнулі найвышэйшай выпрацоўкі за сезон.*

### 3. Заахвочванне пераможцаў спаборніцтва:

*— гаспадаркі, заняўшыя першае, другое, трэцяе месцы, узнагароджваюцца Ганаровымі граматамі раённага выканаўчага камітэта і грашовымі прэміямі ў памеры адпаведна 40, 30 і 20 мінімальных заработных плат;*

*— камбайнеры, якія сталі пераможцамі, узнагароджваюцца Ганаровымі граматамі раённага выканаўчага камітэта і каштоўнымі падарункамі на суму 80 тысяч, 60 і 40 тысяч рублёў адпаведна. Памочнікі камбайнераў узнагароджваюцца каштоўнымі падарункамі вартасцю 70 працэнтаў падарунка камбайнера. Апрача таго, камбайнерам, якія на "Дон-1500" ці "Е-516" намалацілі больш 1000 тон збожжа, а на камбайнах "Ніва" — звыш 500 тон збожжа, уручаецца прэмія 40 тысяч рублёў.*

*— вадзіцелі, стаўшыя пераможцамі на адвозцы збожжа ад камбайнаў, узнагароджваюцца Ганаровымі граматамі раённага выканаўчага камітэта і грашовымі прэміямі 40 тысяч, 30 і 20 тысяч адпаведна;*

*— вадзіцель-пераможца на адвозцы збожжа на Бабруйскі камбінат хлебапрадуктаў ўзнагароджваецца Ганаровай граматай раённага выканаўчага камітэта і падарункам коштам 40 тысяч рублёў;*

*— машыністы збожжатакоў, стаўшыя пераможцамі, узнагароджваюцца Ганаровымі граматамі раённага выканаўчага камітэта і падарункамі коштам 30 тысяч, 20 і 10 тысяч рублёў.*

*Кіраўнікі, старшыні прафсаюзных камітэтаў, галоўныя аграномы, галоўныя інжынеры гаспадарак, якія сталі пераможцамі спаборніцтва, узнагароджваюцца Ганаровымі граматамі раённага выканаўчага камітэта і падарункамі коштам 25 тысяч, 20 і 15 тысяч рублёў адпаведна.*

*Вынікі спаборніцтва падводзяцца ў раённым выканаўчым камітэце пасля папярэдняга іх разгляду ва ўпраўленні сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама і ў райкаме прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу.*

**Умовы спаборніцтва зацверджаны раённым выканаўчым камітэтам. У сваім рашэнні выканкам прапанаваў праўленням калгасаў, іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і арганізацый сумесна з прафсаюзнымі камітэтамі арганізаваць на месцах спаборніцтва на ўборцы ўраджаю збожжавых і зернебабовых культур.**

**Рэдакцыі газеты "Кіравец" рэгулярна асвятляць ход спаборніцтва.**

**Узнагароджванне пераможцаў вырашана правесці за сродкі раённага бюджэту.**



***Зварот старшыні аблвыканкама М.У.Дражына да жыхароў Магілёўшчыны "Аб'яднаем намаганні ў барацьбе за якасную ўборку збожжавых!" абмеркаваны ў працоўным калектыве райаграпрамтэхзабеспячэння. На сходзе вызначаны задачы для інжынерна-тэхнічных работнікаў, вадзіцеляў, рамонтнікаў, забеспячэнцаў на перыяд жніва. Непасрэдна на ўборцы збожжавых будзе задзейнічаны механізаваны атрад, у які ўваходзіць пяць камбайнаў "Ніва". Хаця кожнаму з іх не менш 12-15 гадоў, падрыхтаваны да жніва яны якасна. Прывабны выгляд надае ім свежая афарбоўка. Як адзначыў у гутарцы з намі галоўны інжынер райаграпрамтэхзабеспячэння Віктар Паўлавіч Ставер, мехатрад укамплектаваны вопытнымі кадрамі, за плячыма якіх не адно жніво. Апрача дапамогі гаспадаркам, атрад будзе ўбіраць каласавыя на прыватных участках кіраўчан.***

**На здымку:** ***начальнік мехатрада Уладзімір Емяльянавіч Багдановіч (злева) і адказны за рамонт камбайнаў Міхаіл Фёдаравіч Пархамовіч (крайні справа) гутараць з камбайнерамі.***

**Фота Івана Лукановіча.**

## УТВОРАНЫ ВЫБАРЧЫЯ АКРУГІ

У газеце "Советская Белоруссия" ад 14 ліпеня 2000 года надрукавана пастанова Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў "Аб утварэнні выбарчых акруг па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь другога склікання". Пастановай Цэнтрвыбаркама ўтворана 110 выбарчых акруг. Такім чынам у будучым парламенце краіны будзе 110 дэпутатаў. Кіраўскі, Слаўгарадскі і Быхаўскі раёны ўвайшлі ў састаў Быхаўскай выбарчай акругі №66. Усяго выбаршчыкаў — 65800. Месца знаходжання акруговай выбарчай камісіі — горад Быхаў, вуліца Леніна,31.

## ЗАПРАШАЕМ У БУДАТРАД!

Сваю дзейнасць Беларускі патрыятычны саюз моладзі ў вобласці адраджэння будатрадаўскага руху пачаў яшчэ ў 1998 годзе. Тысячы маладых людзей атрымалі магчымасць правесці летнія канікулы ў вясёлай кампаніі равеснікаў, працуючы на палях і будоўлях Беларусі, у Прыднястроўі, Малдове, Стаўрапальскім і Краснадарскім краях, Крыме...

І сёлета ствараюцца маладзёжныя атрады БПСМ, у саставе якіх ёсць магчымасць папрацаваць на ўборцы фруктаў і агародніны ў Краснадарскім краі. Рабятам з будатрадаў будуць прапанаваны экскурсіі па гораду Краснадару. У вольны ад работы час іх чакае цёплае Чорнае мора.



**Усіх, хто жадае працаваць у будатрадзе БПСМ, мы чакаем па адрасу:** ***г.п.Кіраўск, вул. Савецкая, д.28, тэл. 21-7-58.***

***Заезды пачынаюцца з 31 ліпеня 2000 года (на месяц).***

**Алена СІНЕВІЧ,**
**другі сакратар РК ГА "БПСМ".**

## Пісьмо ў нумар

## НАБАЛЕЛА

Усе мы — кіраўчане, жыхары раёна — ужываем хлеб, які выпякаецца на нашым камбінаце кааператыўнай прамысловасці. Як правіла, выбар невялікі. У продажы звычайна чорны хлеб масавых гатункаў коштам 210 рублёў за буханку, батоны па 261 рублю, бывае здоба, пячэнне. Вось і ўвесь асартымент. Раней выбар быў большы. Але хопіць разважаць пра асартымент. Давайце пагаворым пра якасць батонаў. Пасля апошняга павышэння кошту на іх батоны залежваюцца на паліцах магазінаў. Назаўтра яны практычна непрыгодныя ў ежу. І не таму, што чэрствыя, а таму, што, мякка кажучы, аддаюць ні то цвіллю, ні то гніллю. Трапіўшы ў такую сітуацыю, я вырашыў батон размачыць у вадзе і скарміць куранятам, якіх навялося сёлета процьма. Але дзе там! Нават бройлерныя, якіх дзесятак прыкупіла жонка і якія не надта разборлівыя ў ядзе, і то не сталі есці мешанку.

Паважаная рэдакцыя! Прашу апублікаваць маё пісьмо ці паслаць на рэагаванне дырэктару камбіната кааператыўнай прамысловасці. Хацелася б атрымаць не адпіску, а адказ па сутнасці. А так атрымліваецца, што няма ўправы на хлебапёкаў: маўчыць цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, маўчыць кіраўніцтва райспажыўтаварыства. Усіх усё задавальняе. А ў пакупніка выбару няма.

**Сяргей КАРАНКЕВІЧ,**
**жыхар райцэнтра.**

## АМАЛЬ ПУДОВЫЯ НАДОІ

Раней дойны статак у СКП "Чырвоны баец" утрымліваўся на дзвюх фермах. Пры падвядзенні вынікаў спаборніцтва сярод даярак можна было пачуць, што статкі знаходзяцца ў розных умовах: маўляў, на цэнтральнай ферме выпасы лепшыя, лепшай якасці сянаж, і наадварот. Хаця і кіраўніцтва, і заветслужба рабілі ўсё ад іх залежачае, каб і рацыёны кармлення былі збалансаванымі, і пашы прадукцыйнымі.

Зараз статак знаходзіцца на адной ферме ў Старых Дваранінавічах, аднолькавыя ўмовы для даярак, пастухоў, на аднолькава аддаленых і дагледжаных пашах утрымліваюцца гурты кароў. А лідэрам па надоях малака сярод даярак з'яўляецца Жана Феафанаўна Башан, якая за першае паўгоддзе надаіла ў сярэднім ад адной каровы па 2435 кілаграмаў малака. На рахунку Наталлі Міхайлаўны Манько 2326 кілаграмаў, Наталлі Пракопаўны Дамарод — 2278 кілаграмаў. Цяпер стараныя даяркі надойваюць па 15 літраў ад каровы ў суткі.

## ІНФАРМАЦЫЯ РАЙСЕЛЬГАСХАРЧУ

**аб сярэднясутачных надоях малака ў гаспадарках раёна на 21 ліпеня 2000 года**

| Гаспадаркі | Надоена на кар. (кг) | +, - да 1999 года |
|---|---|---|
| СКП «Чырвоны баец» | 13,2 | -1,9 |
| СКП «Ніва» | 12,6 | -0,5 |
| «Беларусь» | 11,5 | 0,9 |
| «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага | 11,2 | -4,2 |
| імя Дзяржынскага | 10,6 | 1,5 |
| Жыліцкі сельгаскаледж | 9,6 | -0,8 |
| імя Калініна | 8,7 | -0,4 |
| СЗАТ «Бераснёўскае» | 8,6 | -1,2 |
| «Камуніст» | 8,5 | 0,4 |
| с-с «Шыннік» | 8,0 | 1,2 |
| імя Свярдлова | 7,7 | -0,3 |
| с-с імя Кірава | 7,4 | -1,3 |
| «III з'езд Саветаў» | 7,1 | 1,5 |
| «Радзіма» | 7,0 | -0,6 |
| імя Кірава | 6,9 | -1,1 |
| імя Чапаева | 5,9 | -0,1 |
| імя Ільіча | 5,5 | 0,4 |
| Усяго па раёне: | 9,2 | -0,9 |

## Паведамляе БелТА

## НОВАЯ КРЭДЫТНАЯ ЛІНІЯ — ДЛЯ ПЛАЦЁЖАЗДОЛЬНЫХ

Новую крэдытную лінію на пяць мільярдаў рублёў адкрыў Белаграпрамбанк. Гэтымі сродкамі да 1 студзеня 2003 года змогуць карыстацца плацёжаздольныя калгасы, саўгасы, сялянскія (фермерскія) гаспадаркі і іншыя сельскагаспадарчыя арганізацыі для закупкі маладняку буйной рагатай жывёлы. Працэнтная стаўка за карыстанне крэдытам устаноўлена ў памеры палавіны стаўкі рэфінансавання Нацыянальнага банка Беларусі.

## АВАНСЫ — ПАД РЭАЛЬНЫЯ АБ'ЁМЫ ЗБОЖЖА

У 100 мільярдаў рублёў вызначаны кошт дзяржаўнага заказа ўраджаю гэтага года. Для разліку за збожжа, якое паступае, будуць выкарыстаны 30 мільярдаў рублёў крэдытных рэсурсаў, выдзеленыя для гэтых мэт Мінсельгасхарчу. Ёсць неабходнасць паскорыць прадастаўленне гэтых крэдытаў гаспадаркам, якія раней за іншыя пачалі ўборку збожжавых. Аднак, на думку спецыялістаў, неабходна выконваць галоўную ўмову — авансы павінны выдзяляцца пад рэальныя аб'ёмы збожжа. Такім чынам дзяржава будзе стымуляваць нарыхтоўку збожжа калгасамі і саўгасамі рэспублікі. Ужо вызначаны спіс 58 прадпрыемстваў, якім патрабуецца гарантыя ўрада. У першую чаргу ў спіс уключаны тыя прадпрыемствы, якім неабходна дзяржаўная падтрымка.

# 25 ліпеня — Дзень пажарнай службы

## ЛІЧБЫ І ФАКТЫ

25 ліпеня з'яўляецца гістарычнай датай нараджэння прафесійнай пажарнай службы рэспублікі.

На працягу ўсяго існавання чалавецтва існуе праблема барацьбы з агнём. Супрацьпажарная ахова, як асобная служба, у Беларусі была ўведзена яшчэ ў канцы XVII стагоддзя разам з атрыманнем шэрагам гарадоў ганаровага звання Магдэбургскага права, у выніку чаго дазвалялася ствараць органы гарадскога самакіравання — магістры, якія кіравалі і пажарнай аховай.

На прафесійную аснову пытанне тушэння пажараў у Беларусі было пастаўлена ў 1853 годзе. Менавіта тады, 147 гадоў назад, у шэрагу гарадоў: Мінску, Віцебску, Магілёве, Бабруйску — былі створаны прафесійныя пажарныя каманды.

Да рэвалюцыі 1917 года ў нашай рэспубліцы толькі ў шасці гарадах меліся прафесійныя пажарныя каманды. Пажарныя дружыны ўтрымліваліся за кошт узносаў добраахвотных пажарных таварыстваў і часткова за кошт сум, якія адпускаліся на ўтрыманне органаў мясцовага самакіравання.

Першы пажарны аўтамабіль у Магілёў паступіў у 1928 годзе. Пачынаючы з 1930 года, пажарная ахова вобласці прыкметна ўмацавалася матэрыяльна і арганізацыйна. У кожным раёне былі арганізаваны прафесійныя пажарныя каманды, а для каардынацыі работы створаны аддзел пажарнай аховы.

Важнасць пажарнай службы неаднаразова даказвалася смелымі і высакароднымі справамі яе работнікаў, выратаванымі чалавечымі жыццямі і матэрыяльнымі каштоўнасцямі. Толькі за прайшоўшы перыяд бягучага года на Магілёўшчыне на пажарах выратавана 413 чалавек, у тым ліку 18 дзяцей, 99 адзінак тэхнікі, 545 галоў жывёлы.

У вобласці стабілізавалася становішча з пажарамі, і на працягу апошніх пяці гадоў захоўваецца ўстойлівая тэндэнцыя зніжэння колькасці пажараў і цяжкасці вынікаў ад іх.

Сёння мы маем мабільныя, высока арганізаваныя, дысцыплінаваныя, прафесійна граматныя падраздзяленні, якія нясуць кругласутачную вахту і гатовы прыйсці на дапамогу, калі вогненная бяда парушае звыклае цячэнне жыцця.

**Віктар СТАРАСТАЎ, інспектар Дзяржпажнагляду.**

**Калі мы днямі завіталі ў пажарную аварыйна-выратавальную часць і прапанавалі зрабіць здымак лепшых работнікаў для газеты, дзяжурны, каб сабраць каравул, даў сігнал "трывога". У лічаныя секунды пажарныя былі ў поўнай экіпіроўцы і стопрацэнтнай гатоўнасці. Добра, што на гэты раз трывога была "несапраўднай", і няхай бы менш было іх, сапраўдных. Але такая гатоўнасць пажарных да выканання сваіх абавязкаў абнадзейвае і выклікае павагу.**

**На зробленым нашым фотакарэспандэнтам Іванам Лукановічам здымку — каравул пажарных (злева-направа): начальнік каравула В.Ю.Раманаў, радыётэлефаніст М.І.Бахановіч, пажарны Р.А.Свірыд, вадзіцелі А.А.Пачачуеў і А.В.Красніцкі, камандзір аддзялення У.Р.Рудзько.**



## У ПОЎНАЙ ГАТОЎНАСЦІ

**У гэты ж дзень мы мелі гутарку з начальнікам часці А.А.Кісялёвым (дарэчы, ён не так даўно займае гэтую пасаду) і яго намеснікам М.М.Сычэўскім, якія расказалі аб мэтах і задачах пажарнай службы, надзённых праблемах.**

У 1994 годзе Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі пажарныя падраздзяленні былі выведзены з прафесійнага падпарадкавання Міністэрства ўнутраных спраў і пераўтвораны ў ваенізаваную пажарную службу. Тады ў мэтах скарачэння часу прыбыцця на месцы пажараў у аддаленыя кропкі былі створаны і асобныя пасты ваенізаванай пажарнай службы ў сельскіх населеных пунктах, у нашым раёне — 3: у Стайках, Любонічах, Жылічах.

З лютага бягучага года пажарная служба ўвайшла ў падпарадкаванне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь, і зараз яе падраздзяленні носяць назву "пажарныя аварыйна-выратавальныя часці": акрамя тушэння пажараў, у іх абавязкі ўваходзіць выкананне ўсіх відаў выратавальных работ.

За першае паўгоддзе бягучага года пажарныя Кіраўскай пажарнай аварыйна-выратавальнай часці зрабілі 155 выездаў па баявой трывозе, з іх на пажары — 20, лясныя пажары — 6, пажары на тарфяніках — 14, гарэнне смецця і сухой травы — 32, аварыі і надзвычайныя сітуацыі — 8 (тушэнне пажараў на ўстаноўках пад электрычным напружаннем, аварыях на аўтатранспарце, адкачка вады, ускрыццё канструкцый), пажара-тактычныя заняткі і вучэнні — 65. Як бачна, служба выконвае, акрамя пажарных, шырокі спектр аварыйна-выратавальных работ. За ўказаны перыяд выратавана і эвакуіравана 13 чалавек, 4 галавы жывёлы. Кошт выратаванай маёмасці — 35 мільёнаў рублёў. Агульная плошча патушаных лясных пажараў — 9 гектараў, пажараў на тарфяніках — 2 гектары.

За гэтымі лічбамі стаіць нялёгкая, часта небяспечная праца асабовага саставу часці, смеласць, адвага, самаахвярнасць пажарных. Увогуле ў гарнізоне 60 чалавек. Сумленна выконваюць свае абавязкі начальнікі пажарных аварыйна-выратавальных пастоў: п.Жылічы — В.С.Іваноў, в.Любонічы — І.І.Чайка, в.Стайкі — С.У.Баброў, а таксама старшы пажарны І.А.Бодык, начальнік каравула В.Р.Раманаў, начальнік склада М.П.Мухін і іншыя.

Працаваць больш эфектыўна не дазваляюць аб'ектыўныя прычыны: зношанасць тэхнікі, недахоп патрэбнага пажара-тэхнічнага ўзбраення для ліквідацыі аварый і надзвычайных сітуацый. Набываць і абнаўляць усё гэта няма магчымасці з-за нехваткі фінансавых сродкаў. Яны выдзяляюцца практычна толькі на бензін і зарплату, задаволіць астатнія патрэбы праблематычна. У тым ліку і хутчэй дабудаваць новую базу часці. На гэтыя мэты сёлета выдзелена толькі 6 мільёнаў рублёў, тады як для заканчэння будаўніцтва патрэбна ў пяць разоў больш.

Але пажары і розныя складаныя сітуацыі не чакаюць, пакуль пажарныя будуць аснашчаны належным чынам: яны ўзнікаюць нечакана ў розных месцах раёна, і гарнізону работы хапае. Пажарныя стараюцца выконваць яе добрасумленна.

Кіраўніцтва Кіраўскай пажарнай аварыйна-выратавальнай часці віншуе ўвесь састаў гарнізона з прафесійным святам, жадае моцнага здароўя, бадзёрасці, удачы ў жыцці. Няхай як мага менш будзе трывожных выездаў і хваляванняў родных і блізкіх. Шчасця ўсім, сямейнай цеплыні і дабрабыту!

**Размову вяла Наталля ХАДАКОВА.**

## Запытвайце — адказваем

## МАЕШ НЕРУХОМАСЦЬ — ПЛАЦІ

***Цікава, чаму за адну гаспадарчую пабудову патрэбна плаціць дзяржаве двойчы: падатак на нерухомасць і страхоўку?***

**Марыя РУДЗЬКО, жыхарка райцэнтра.**

За тлумачэннямі мы звярнуліся ў інспекцыю дзяржаўнага падатковага камітэта па Кіраўскаму раёну. Вось што наконт гэтага нам паведамілі: "Плацельшчыкамі падатку на нерухомасць з'яўляюцца фізічныя асобы, якія маюць на тэрыторыі рэспублікі ва ўласнасці пабудовы (жылыя дамы, надворныя пабудовы, гаражы і інш.). За пабудову, не маючую ўласніка або ўласнік якой невядомы і яна ўзята фінансавымі органамі на ўлік як безгаспадарная, указаны падатак не бярэцца.

Вызваляюцца ад падатку фізічныя асобы, якія з'яўляюцца пенсіянерамі па ўзросту, інвалідамі І і ІІ груп, іншыя непрацаздольныя грамадзяне пры адсутнасці працаздольных асоб, сумесна пражываючых з імі або якія лічацца па дадзеных пагаспадарчага ўліку ці дамавых кніг, не маючыя крыніц даходу, абкладаемых падаходным падаткам, а таксама сем'і, галавой якіх з'яўляюцца бацькі ці муж і жонка ваеннаслужачых, работнікаў Міністэрства ўнутраных спраў і Камітэта дзяржаўнай бяспекі, загінуўшых ці прапаўшых без вестак пры выкананні службовых абавязкаў.

Улік грамадзян, якія падлягаюць абкладанню падаткам на нерухомасць, ажыццяўляецца па становішчу на 1 студзеня кожнага года. Падатак на нерухомасць вызначаецца зыходзячы з ацэнкі пабудоў, якую вызначае ўрад краіны.

За пабудову, перайшоўшую ў спадчыну, падатак на нерухомасць бярэцца з нашчадкаў з моманту адкрыцця спадчыны.

Падатак на нерухомасць грамадзяне абавязаны ўплачваць на працягу года, але не пазней 15 лістапада.

Плацельшчыкі падатку нясуць адказнасць за своечасовасць яго ўплаты ў бюджэт у адпаведнасці з Законам РБ "Аб падатках і зборах, збіраемых у бюджэт Рэспублікі Беларусь".

Што датычыць уплаты страхоўкі на пабудовы, нам адказалі ў раённым аддзяленні Белдзяржстраху: "На падставе Дэкрэта Прэзідэнта рэспублікі ад 18.06.1999 года ў краіне ўведзена абавязковае страхаванне пабудоў для пакрыцця страт грамадзянам, у якіх знішчаны ці пашкоджаны пабудовы ў выніку пажараў, выбухаў, удараў маланкі, моцных ветраў і г.д. Вызваляюцца ад уплаты страхоўкі інваліды Вялікай Айчыннай вайны І, ІІ і ІІІ груп".



## На кніжную паліцу



## ІЛЮЗІЯ РАЮ

Шмат тысячагоддзяў назад нашы продкі вымушаны былі адстойваць сваё права на існаванне, змагаючыся з холадам, голадам, дзікай жывёлай і прыроднымі катаклізмамі. Зараз, на пачатку XXI стагоддзя, чалавек зноў аказаўся акружаным небяспечнасцямі, толькі з той розніцай, што яны ў большасці сваёй з'яўляюцца прадуктам яго дзейнасці. І галоўная з іх — наркотыкі. Іх каварства абумоўлена тым, што яны разбураюць і цела, і душу, зводзячы чалавека да стану жывёлы, ператвараючы яго ў поўнага ідыёта. Пры гэтым у якасці сваіх ахвяр наркотыкі часцей за ўсё выбіраюць найбольш безабаронных членаў грамадства — дзяцей і падлеткаў, якія гінуць не паспяваючы нават дасягнуць разумовай і фізічнай сталасці.

Існуе пункт гледжання, што чым больш аб наркотыках гаварыць, тым шырэй яны распаўсюджваюцца. Але праблемы зусім у іншым: што і як гаварыць. Імкнуцца схаваць інфармацыю сёння, калі на прылаўках кіёскаў — сотні выданняў, якія на ўсе лады распісваюць "хараство" наркатычнага раю, па меншай меры, глупства.

У свой час паказу толькі аднаго фільма аб прамой сувязі курэння з ракам лёгкіх было дастаткова, каб дзесяткі мільёнаў амерыканцаў кінулі курыць. А вось з наркотыкамі справа абстаіць куды больш складана. Наркаманія грунтуецца на падмане, які з'яўляецца яе рэлігіяй. Пачнём з таго, што само ўздзеянне наркотыка накіравана на падман арганізму, калі ён каварна пранікае ў мозг і цэнтральную нярвовую сістэму, уводзіць іх у зман і, пазбавіўшы арганізм "галавы", прыступае да яго метадычнага разбурэння. Стан эйфарыі, галюцынацыі, ілюзій, імкненне выдаць за "божае адкрыццё" усё тое, што назапасілася ў яго хворай падсвядомасці або кімсьці наўмысна ўнушаецца.

Цалкам прасякнута падманам і жыццё саміх наркаманаў. Паколькі адзінай мэтай для іх з'яўляецца "кайф", то дзеля яго яны, выкарыстоўваючы любыя сродкі, схіляюць акружаючых іх людзей да прыёму наркотыкаў, маючы з гэтага немалыя барышы.

Падманная інфармацыя аб наркотыках, якая рэкламуе іх ярка, але пры гэтым утойвае звесткі ад дэградацыі мозга і інтэлекта, ператварэнні наркамана ў слабаразумовага псіхапата, разбурэнні печані, нырак, сардэчна-сасудзістай сістэмы.

Спыніць наркатычную чуму можам толькі мы з вамі. Цана перамогі над гэтым злом — захаванне краіны і само жыццё дзяцей.

Кніга "Ілюзія раю" А.А.Шпакава — сямейны даведнік, выдадзены ў Санкт-Пецярбургу ў 1999 годзе, уяўляе сабой унікальны твор. У ім падрабязна і ўсебакова асвятляюцца вастрэйшыя праблемы, з якімі сутыкнулася наша грамадства на стыку тысячагоддзяў. Узброіўшыся ведамі, атрыманымі пасля прачытвання кнігі, бацькі і іх дзеці змогуць супрацьстаяць наркаманіі. Значная частка твору прысвечана праблемам бяспекі жыцця, у ёй расказваецца аб прэпаратах, іх прымяненні, выніках курэння і іншым.

Гэту кнігу можна выкарыстоўваць у якасці дапаможніка пры аказанні першай медыцынскай дапамогі пры атручванні бытавымі ядамі, наркотыкамі, алкаголем, лякарствамі, ядавітымі раслінамі і грыбамі, пры ўкусах гадзюк, насякомых. З яе вы таксама даведаецеся і аб многай іншай карыснай інфармацыі. Пазнаёміцца з кнігай можна ў чытальнай зале цэнтральнай раённай бібліятэкі.

**Наталля ПАРФЁНАВА, бібліятэкар аддзела абслугоўвання цэнтральнай раённай бібліятэкі.**

## УРАГАН НАНЁС УРОН

Паводле дадзеных на раніцу 18 ліпеня, практычна ва ўсіх населеных пунктах Беларусі, што пацярпелі ад нядаўняга ўрагану, адноўлена электразабеспячэнне. А ўсяго без электрычнасці ў розны час былі 980 населеных пунктаў. Паводле слоў міністра па надзвычайных сітуацыях Валерыя Астапава, у выніку стыхіі загінула жанчына, яшчэ два чалавекі атрымалі розныя траўмы. Ад ліўняў і ўрагану пацярпелі 1026 населеных пунктаў. Найбольшы ўрон стыхія нанесла гаспадаркам Чэрыкаўскага, Краснапольскага, Магілёўскага, Віцебскага, Сенненскага, Талачынскага і Кармянскага раёнаў. Пашкоджана 378 жылых дамоў, 7 аб'ектаў сацкультбыту, 26 вытворчых памяшканняў, 111 гаспадарчых будынкаў, у тым ліку 47 ферм. Пацярпела звыш 4 тысяч гектараў сельгасугоддзяў. Пашкоджаны 217 кіламетраў ліній электраперадач.

**БелТА.**

# Літаратурны куток

## Предсказание

Памяти
Владимира Высоцкого

*Я слишком много
знаю наперед,
И потому порой
мои порывы
Взрываются
аккордами без нот,
Не складываясь
в сладкие мотивы.
Пусть по ночам
Мне вещих снов
не снится,
И не гадаю я
на гуще, на бобах,
Но перед будущим
меня не мучит страх,
Душа моя всегда
вперед стремится.
Она давно вся
в будущих веках
Витает не взирая
там на лица.
Ей наплевать на то,
что "ясновидцев...
Во все века сжигали
люди на кострах!"
И я пишу, кричу
без всяких нот,
В моих строках
звучат мои мотивы.
Я слишком много
знаю наперед...
А кто не знал, те
и остались живы...*

Петр ЗВЯГИНЦЕВ.

## О судьбе

*Ах если б знать
судьбу вперед —
Все от начала до финала:
Где путь прямой,
где поворот,
А где опасности
провалы.
Знать, где соломки
подстелить,
Когда срываешься
с вершины,
Кого лизнуть иль укусить
В крутую для тебя годину.
Все рассчитать,
предусмотреть
До каждого твоего шага,
Что пожелаешь —
заиметь,
Пускай недаром,
но во благо.
Ах, если б знать
до мелочей,
"Что день грядущий
нам готовит" —
Все меньше
было бы ночей
С бессонницей
у изголовья.
Но "не дано предугадать"
Всего, как
вещему пророку,
Превратности
судьбы встречать
Нам суждено
до жизни срока.
И в том, наверно,
смысл ее,
И прелесть, как
святая тайность.
Иначе было б — бытие,
Смертельно
скучная банальность.*

Виталий САВИЦКИЙ.

* * *

*Нізку лірычных вершаў, якая прадастаўляецца ўвазе чытачоў, па просьбе іх аўтара мы друкуем пад псеўданімам. Аўтару вельмі хацелася б пачуць водгукі на ягоныя радкі. Таму запрашаем жадаючых выказаць свае меркаванні ў пісьме ці вусна.*

## Лирическое

*Сентябрем
на меня не смотри,
Посмотри лучше
ласковым маем.
Как страницы,
мелькают дни.
Сколько нам их дано —
не знаем.
Так давай же
любовь хранить,
Пронося сквозь
дожди и грозы.
Солнце мая
может светить,
Если даже
декабрь и морозы.
И не надо меня теперь
Упрекать, что
другой был рядом.
Я над пропастью шла,
поверь,
А не майским
цветущим садом.*

* * *

*Летний лес нас
с тобою венчал,
Алтарем были
яркие звезды,
А рассвет наступил,
и ты мне прошептал:
"Почему мы так
встретились поздно?"
Что ответить на этот
вопрос непростой?
И, наверно, не ждал
ты ответа.
Но была эта ночь
родниковой водой
Среди зноя
ушедшего лета.*

* * *

*Я хочу Вам напомнить
о том, как нечаянно
Ваши руки
коснулись моих.
Пустоту своей жизни
заполнить хотели
отчаянно
Как в кино, создавая
"вокзал на двоих".
Я поверила, думала —
Вы мой единственный,
Слов ждала,
мимолетной ласки.
Как актер, Вы играли под
маской таинственной.
И однажды
развеялась сказка.
Оказалось, что мне Вы
не враг и не друг.
Просто так,
случайный попутчик.
Я хочу Вам напомнить —
замкнулся круг
От замка мной
заброшен ключик.*

* * *

*Я верю, на стыке
мгновений
В тот самый
последний день,
Когда пред Богом
падешь на колени,
Мелькнет моя
хрупкая тень.
Для тени солнце
не светит,
И не звенит ручей.
Что ты сможешь
ответить
Истерзанной тени моей?*

Наталья ФИЛИППОВА.

* * *

## Спроба пяра

*"Добры дзень, газета "Кіравец"! Мяне завуць Аліна, мне 11 гадоў. Я пераходжу ў 5 клас Мышкавіцкай СШ. У мяне ёсць шчаня Блэк (па-англійску гэта "чорны"). А яшчэ ў мяне ёсць кошачка Фенька. Мая старэйшая сястра Ірачка працуе рэдактарам перадачы "Аўтапарк" Беларускага тэлебачання. Яна, калі вучылася ў школе, пісала ў вашу газету. І я таксама вырашыла напісаць вам свае вершы. Аліна Швядкова".*

***Ад рэдакцыі.*** *Мы прыйшлі да думкі, што Аліне ўласціваае творчае мысленне, у яе вершах, месцамі яшчэ няўмелых, ёсць імкненне па-свойму асэнсаваць рэчаіснасць.*

### Дождь

*Дождь барабанит
по крыше,
Сказать бы ему:
"Тише! Тише!"
А он все стучит и стучит,
И эхо по дому летит.
Капли стекают в трубу,
Слышно в трубе: ду-ду-ду!*

### Васильки

*На лугу, на широком
просторе
Василечки растут.
Здесь и в лесу, и на поле
Их, конечно, найдут.
Ведь у них очень
синие глазки,
Ничего нет нежней
и милей,
И стоят васильки,
словно в сказке
На балу у царей-королей.*

### Моя кошечка

*Моя кошечка
утром встает
И песенку сразу поет.
На руки возьму —
вдруг заснет
Погладишь ее — запоет.
Посмотрит в окошко,
Вокруг поглядит,
Прохожие дивятся:"Кошка!
Ах, как элегантно сидит!"*

Алина ШВЕДКОВА.

# Программа телевидения



## ПОНЕДЕЛЬНИК, 24 июля

**БТ**

**6.30** Доброе утро, Беларусь! **7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.20** Новости. **7.10** Доброе утро, Беларусь! **8.00** Резонанс. **9.10** Потребительская корзина. **9.25** "Сегодня с вами..." **9.50** Здоровье. **10.15** Мультфильмы. **10.35** Теленавигатор. **11.10** "Все мои дети". **11.55** "Судьба человека". **12.25** Музыкальный салон. **14.26** Док. фильм. **15.11** "Четыре танкиста и собака". Телесериал. **16.05** "А музыка звучит..." **16.35** Авто-парк. **16.45** Премьера песни. **17.10** Столица. **17.40** Док. фильм. **18.00** "Сити". **18.44** МСН. **19.20** Политические диалоги. **19.55** "Все мои дети". **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.35** Событие. **21.50** "Одиссея команды Кухто". Телеигра. **22.25** Худ. фильм "Криминальный квартет". **23.50** Третий тайм. **0.30** Криминальная хроника.

**ОРТ**

**13.30** "Вместе". **14.00, 17.00, 22.25** Новости. **14.20** Мультсериал. **14.40** Звездный час. **15.10** ...До шестнадцати и старше. **15.40** Вкусные истории. **15.55** "Вавилонская башня". **17.30** Банка комиксов. **18.05** Детектив "Тайна записной книжки". **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** От создателя "Секретных материалов". **21.40** Взгляд. **22.40** Дневник Московского кинофестиваля. **22.50** "Майк Хаммер: Блудная дочь". **23.50** "Паранормальные явления. Закрытое досье".

**РТР**

**7.00, 8.00, 16.00, 19.00** Вести. **7.20** Телеспецназ. **7.35** Семейные новости. **7.45** Доброе утро, Россия. **8.35** "Приключения капитана Пронина". Мультсериал. **8.45** Мультсериал. **9.10** Комедия "Соблазнитель". **10.05** "Санта-Барбара". **16.30** "Сто к одному". **17.20** "Королева Марго". **18.25** Премьера программы "Как потратить миллион". **19.45** "Дикий ангел". **21.35** "Следствие ведут знатоки". **23.00** Ринг-2000. **0.05** Дежурная часть.

**КУЛЬТУРА**

**11.30, 13.30** Новости культуры. **11.40** "Кукла с миллионами". Худ. фильм. **12.45** Док. фильмы. **13.45** "Жил-был хомяк". **14.10** Благодарен судьбе. "Родом из МХАТа". **14.40** Телеэнциклопедия. **15.00** Новости. **15.10** Мультфильмы. **15.30** Концерт оркестра русских инструментов.

**"МОГИЛЕВ-1"**

**8.00** Астро-дайджест. **8.10** "Саманта". Телесериал. **8.55** "Сейлормун снова с нами". Мультсериал. **9.20** "Падение". Боевик. **16.30** "Таггерт". Телесериал. **17.20** Мультфильм. **17.30** "Туман Атлантиды". Док. сериал. **17.55** "Праздник в Вашем доме". **19.00** Тяжелый день. **19.20** Телемагазин. **19.30** День области. **20.00** "Праздник в Вашем доме". **21.00** "Ольга и Константин". Худ. фильм. **22.05** Астро-дайджест. **22.10** "Конфессии: два лица зла". Детектив.

## ВТОРНИК, 25 июля

**БТ**

**6.30** Доброе утро, Беларусь! **7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.55** Новости. **7.10** Доброе утро, Беларусь! **8.10** Политические диалоги. **8.45** Письменный экзамен по белорусскому (русскому) языку и литературе в высших учебных заведениях. **9.10** Потребительская корзина. **9.25** "Минск на рубеже эпох. Огненные команды". **9.35** Мультфильм. **9.45** "На волне взаимопонимания". **10.30** Бездельник. **11.10** "Все мои дети". **11.55** "Одиссея команды Кухто". Телеигра. **12.25** Третий тайм. **14.25** Туробъектив. **14.45** Док. фильм. День над лесом". **15.10** "Четыре танкиста и собака". **16.03** Док. фильм. "Миллениум — на стыке двух тысячелетий". **17.15** "Песни Розенбаума". **18.00** "Сити". **18.44** МСН. **19.40** "Наша служба — МЧС". **19.55** "Все мои дети". **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.35** Событие. **21.50** Худ. фильм "Сказ о том, как царь Петр арапа женил". **23.25** Музыка без границ. **0.05** Криминальная хроника.

**ОРТ**

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.40** Новости. **8.20** "Вавилонская башня". **9.25** Здоровье. **9.55** "Чтобы помнили..." **10.35** "Лето наших надежд". **13.30** "Вместе". **14.20** Мультсериал. **14.45** Царь горы. **15.10** ...До шестнадцати и старше. **15.40** Вкусные истории. **15.55** "Вавилонская башня". **17.30** "Каламбур". **18.00** Прикл. фильм "Опасные гастроли". **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** "Всенародный Володя". **21.30** Песни В.Высоцкого. **22.55** Дневник Московского кинофестиваля. **23.05** Док. детектив. "Свой или враг?". **23.35** "Служба новостей".

**РТР**

**7.00, 8.00, 16.00, 19.00** Вести. **7.20** Телеспецназ. **7.35** Семейные новости. **7.45** Доброе утро, Россия. **8.35** Мультсериал. **8.45** Мультсериал. **9.10** Комедия "Соблазнитель". **10.05** "Санта-Барбара". **16.30** "Сто к одному". **17.20** "Королева Марго". **18.25** "Как потратить миллион". **19.45** "Дикий ангел". **21.40** Премьера док. фильма о В.Высоцком. **22.05** "20 лет без Высоцкого". **23.55** "К-2" представляет программу "Фрак народа". **0.50** Дежурная часть.

**КУЛЬТУРА**

**11.30, 13.30** Новости культуры. **11.40** Классика американского немого кино. "Жанна-женщина". Худ. фильм. **13.05** В.Шукшин. "Миль пардон, мадам". **13.45** "Жил-был хомяк". **14.10** Благодарен судьбе. "Профессия и ремесло". **14.40** Телеэнциклопедия. **15.00** Новости. **15.10** Мультфильмы. **15.40** Фестиваль детского творчества "Надежда".

**"МОГИЛЕВ-1"**

**8.00** "Навіны раніцы". **8.10** "Саманта". Телесериал. **9.00** "Сейлормун снова с нами". Мультсериал. **9.25** "Конфессии: два лица зла". Детектив. **16.30** "Таггерт". Телесериал. **17.20** Мультфильм. **17.30** "Путешественники во времени". Док. сериал. **17.55** "Праздник в Вашем доме". **19.00** Бобруйский вариант. **19.20** Телемагазин. **19.30** День области. **20.00** "Праздник в Вашем доме". **21.00** "Только ты". Телесериал. **21.45** Астро-дайджест. **21.50** "Барьер высоты". Боевик.

## СРЕДА, 26 июля

**БТ**

**6.30** Доброе утро, Беларусь! **7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00 19.00 23.35** Новости. **7.10** Доброе утро, Беларусь! **8.15** "Сегодня с вами..." **8.40** Потребительская корзина. **9.10** "Красная Шапочка". Мини-опера Могилевского областного театра кукол. **10.00** Мультфильм. **10.36** Компьютерный полигон. **11.15** "Все мои дети". **12.00** "Наша служба — МЧС". **12.35** Док. фильм. "Сказка о городе Копысе". **13.15** Видимо-невидимо. **15.12** "Четыре танкиста и собака". **16.05** Мультфильмы. **16.35** "А музыка звучит..." **17.10** "Макаенка,9". **17.40** Хоккейная лига. **18.00** "Сити". **18.44** МСН. **19.15** Лотерея "Толока". **19.25** "Наши песни". **19.55** "Все мои дети". **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.35** Событие. **21.50** Драма "Леопард". **23.05** Королевская охота. **23.45** Криминальная хроника.

**ОРТ**

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.25** Новости. **8.20** "Вавилонская башня". **9.20** Пока все дома. **9.50** Колесо истории. **10.30** "Лето наших надежд". **13.30** "Вместе". **14.20** Мультсериал. **14.40** Зов джунглей. **15.10** ...До шестнадцати и старше. **15.40** Вкусные истории. **15.55** "Вавилонская башня". **17.30** "Собачья работа". **17.45** Погода. **17.50** Комедия "Двое: я и моя тень". **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** "Угол атаки". **21.40** Как это было. **22.40** Дневник Московского кинофестиваля. **22.50** "Собрание заблуждений". **23.20** "Служба новостей".

**РТР**

**7.00, 8.00, 16.00, 19.00** Вести. **7.20** Телеспецназ. **7.35** Семейные новости. **7.45** Доброе утро, Россия. **8.35** "Приключения капитана Пронина". **8.45** Мультсериал. **9.10** Мелодрама "Принцесса моих грез". **10.05** "Санта-Барбара". **16.30** "Королева Марго". **18.25** "Как потратить миллион". **19.45** "Дикий ангел". **21.35** "Следствие ведут знатоки". **22.35** "75 лет "Комсомольской правде". **23.35** Международные соревнования по художественной гимнастике. **0.20** Дежурная часть. **0.35** Звуковая дорожка.

**КУЛЬТУРА**

**11.30, 13.30** Новости культуры. **11.40** "Жанна-женщина". Худ. фильм. **12.45** "Тихая музыка". **13.00** "Бездомные люди". Док. фильм. **13.45** "Жил-был хомяк". **14.10** Благодарен судьбе. "Не за деньги жили..." **14.35** Телеэнциклопедия. **15.00** Новости. **15.10** Мультфильмы. **15.55** "Лирика Лермонтова".

**"МОГИЛЕВ-1"**

**8.00** "Навіны раніцы". **8.10** "Саманта". Телесериал. **8.55** "Сейлормун снова с нами". Мультсериал. **9.20** "Барьер высоты". Боевик. **16.30** "Таггерт". Телесериал. **17.20** "Мир скорости". Тележурнал. **17.55** "Праздник в Вашем доме". **19.20** Телемагазин. **19.30** День области. **20.00** "Праздник в Вашем доме". **21.00** "Только ты". Телесериал. **21.45** Астро-дайджест. **21.50** Спорт планеты.

## ЧЕТВЕРГ, 27 июля

**БТ**

**6.30** Доброе утро, Беларусь! **7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.10** Новости. **7.10** Доброе утро, Беларусь! **8.15** Сельчане. **8.40** Потребительская корзина. **9.15** Королевская охота. **9.45** Телевизионный Дом кино. **10.15** "Аистенок". Худ. фильм. **11.15** "Все мои дети". **12.00** "Наши песни". **12.35** Наш край. **13.10** "Отцы и дети". Худ. фильм. **14.25** "Радостная душа". **15.10** "Четыре танкиста и собака". **16.05** Мультфильм. **16.25** "Литературный экспресс Европа-2000". **17.10** Док. фильм. "Амплитуда Ренальда Кныша". **17.36** Усадьба. **18.00** "Сити". **18.44** МСН. **19.15** "Премьер-парад". **19.40** Телебарометр. **19.55** "Все мои дети". **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.35** Событие. **21.50** Драма "Леопард". **23.20** Криминальная хроника.

**ОРТ**

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.30** Новости. **8.20** "Вавилонская башня". **9.20** Смехопанорама. **9.50** Человек и закон. **10.30** "Компьтерные войны". **13.30** "Вместе". **14.20** Мультсериал. **14.45** "100%". **15.10** ...До шестнадцати и старше. **15.45** Вкусные истории. **15.55** "Вавилонская башня". **17.30** Маски-шоу. **18.00** Худ. фильм "Законный брак". **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** "Угол атаки". **21.40** Процесс. **22.45** Дневник Московского кинофестиваля. **22.55** "Цивилизация". **23.25** "Служба новостей".

**РТР**

**7.00, 8.00, 16.00, 19.00** Вести. **7.20** Телеспецназ. **7.35** Семейные новости. **7.45** Доброе утро, Россия. **8.35** "Приключения капитана Пронина". **8.45** Мультсериал. **9.10** Мелодрама "Принцесса моих грез". **10.05** "Санта-Барбара". **16.35** "Королева Марго". **18.25** "Как потратить миллион". **19.45** "Дикий ангел". **21.35** "Следствие ведут знатоки". **23.20** Чемпионат мира по панкратиону. **0.55** Дежурная часть.

**КУЛЬТУРА**

**11.30, 13.30** Новости культуры. **11.40** "Багдадский вор". Худ. фильм. **12.50** Гостиная Архиповой. **13.45** "Жил-был хомяк". **14.10** "В доме у Станиславского". **14.40** Телеэнциклопедия. **15.00** Новости. **15.10** Мультфильмы. **15.40** "Мцыри".

**"МОГИЛЕВ-1"**

**8.00** "Навіны раніцы". **8.10** "Саманта" Телесериал. **9.00** "Сейлормун снова с нами". Мультсериал. **9.25** "Ольга и Константин". Худ. фильм. **16.30** "Из жизни женщин". **17.00** Ток-шоу "Я сама". "Другая жизнь". **17.55** "Праздник в Вашем доме". **18.50** Мультфильм. **19.00** "Откровенно...". **19.20** Телемагазин. **19.30** День области. **20.00** "Праздник в Вашем доме". **21.00** "Только ты". Телесериал. **21.45** Астро-дайджест. **21.50** "Старший сын". Мелодрама.

## Парады — будзьце рады

*** Як захаваць кветкі, калі іх няма каму паліць? Пакладзіце ў гаршчок вільготную губку, і вільгаць будзе паступаць у глебу. Можна прыкрыць зверху.**

*** Каб даведацца, колькі вады патрэбна для паліву вазона, уваткніце палачку ў зямлю каля сценкі гаршка да самага дна і асцярожна, злёгку паварочваючы, выцягніце. Калі яна ўся пакрыта вільготнай глебай, вазон палівацъ не трэба. Калі верхняя частка сухая, то вазон трэба паліць.**

## Поздравляем!



д.Капустино,
**ОЛЬГЕ АКИМОВНЕ и ПЕТРУ ЕКЕНТЬЕВИЧУ ШАШЕНКАМ**

**Дорогие Ольга и Петр!**

***Сердечно поздравляем вас с днем рождения.***

***Примите от нас самые лучшие пожелания.***

*От души желаем не болеть,*
*Счастье полное иметь,*
*Никогда не волноваться,*
*В жизни чаще улыбаться.*
*Чтобы старость*
*не подкралась,*
*Чтобы молодость осталась,*
*Чтобы сердце реже ныло,*
*Чтобы радость*
*в доме была.*

**Катя, Виктор, крестница Олечка.**

# Памяці Уладзіміра Высоцкага

## У СЭРЦЫ НАРОДА

25 ліпеня 1980 года ў кватэры на Малой Грузінскай вуліцы а чацвёртай гадзіне дзесяць мінут раніцы спынілася сэрца Уладзіміра Высоцкага. Спыніўся назаўсёды і старадаўні насценны гадзіннік, здрыгануўшы стрэлкамі.

Пражыўшы ўсяго 42 гады, У.Высоцкі сыграў 28 ролей у кіна- і тэлефільмах, больш як за 30 ролей у Маскоўскім драматычным тэатры імя А.С.Пушкіна і Тэатры на Таганцы, прымаў удзел у васьмі радыёспектаклях, з якіх пяць запісаў на пласцінку. Ім напісана больш за 600 песень і вершаў, некалькі празаічных твораў. Ён аб'ездзіў з канцэртамі ўсю краіну, выступаў на падмостках Балгарыі, Венгрыі, Канады, ЗША, Францыі і Германіі.

Уладзімір Высоцкі. Гэтае імя вядомае ўсім. Да яго можна ставіцца па-рознаму: можна любіць і ненавідзець, прызнаваць і не прызнаваць. Да яго нельга быць раўнадушным. Усе яго песні-вершы напісаны крывёю сэрца. Не выпадкова, мабыць, выбрана назва яго першага зборніка "Нерв". Уладзімір Высоцкі — гэта феномен 70-х гадоў. Нехта з крытыкаў сказаў, што прыдзе час, і мы будзем вывучаць эпоху 70-х гадоў па творчасці У.Высоцкага.

Незвычайна для паэта пачынаў Уладзімір Высоцкі сваю творчасць. Яго першымі творамі былі пародыі на так званы "блатны" фальклор. Але тыя, хто любіць вершы і песні Высоцкага толькі гэтага жанру, не ведаюць аб ім нічога. Пазней, калі ён набыў вопыт у паэзіі, у яго творчасці сталі закранацца сур'ёзныя тэмы: каханне, вайна, зносіны паміж людзьмі і іншыя. Здаецца, што перад намі розныя паэты, настолькі разнастайны Высоцкі. То гэта пяшчотна ўлюбёны мужчына:

*Я дышу, —и,*
*значит, я люблю!*
*Я люблю, — и,*
*значит, я живу!*

То паэт ператвараўся ў былога франтавіка, які прайшоў праз усю вайну. Шмат ваяваўшых людзей прымалі Высоцкага за свайго, пісалі яму лісты, у якіх пыталіся, ці не іх ён аднапалчанін.



Значнае месца ў паэзіі Высоцкага займае сатыра, у якой паэт высмейвае розныя заганы грамадства: п'янства, бескультур'е, хамства, пляткарства.

***Ходят сплетни, что***
***не будет больше слухов,***
***И ходят слухи — будут***
***сплетни запрещать...***

Цікавы той факт, што калі ён пісаў песні аб мараках, то маракі лічылі яго сваім, калі аб альпіністах, то — альпіністам, калі аб зняволеных, то думалі, што ён "сядзеў". На самой справе нічога гэтага не было ў рэчаіснасці. Проста Уладзімір Высоцкі быў вельмі таленавітым чалавекам.

Вось ужо дваццаць гадоў Высоцкага няма разам з намі, але ён у нашых душах, у нашым розуме.

## У.ВЫСОЦКІ І БЕЛАРУСЬ

Уладзімір Высоцкі зрабіў за сваё жыццё вельмі шмат. Яго жыццёвыя шляхі перасякаліся і з нашай рэспублікай, тым больш, што сам Высоцкі вельмі пяшчотна і чулліва ставіўся да ўсяго, што звязана з Беларуссю.

Мала хто ведае, што дзед Уладзіміра Высоцкага — Уладзімір Сямёнавіч Высоцкі — нарадзіўся ў 1889 годзе ў Брэст-Літоўску, у сям'і настаўніка рускай славеснасці, выкладаўшага мову і літаратуру ў мясцовай гімназіі. Уладзімір Сямёнавіч-старэйшы пражыў у Брэсце шмат гадоў. Затым сям'я Высоцкіх пераехала на Украіну, у Кіеў. Тады, у 1915 годзе, нарадзіўся бацька паэта і спевака Сямён Уладзіміравіч.

Уладзімір Сямёнавіч Высоцкі-малодшы ўпершыню ступіў на беларускую зямлю ў 1947 годзе разам з бацькам, кадравым афіцэрам.

Як сцвярджаюць аўтары кнігі "У.Высоцкі і Беларусь", напэўна, юны Высоцкі прагульваўся па вакзальнай зямлі Брэста, Мінска, Оршы, назіраў і нашых буслоў, без якіх рэдка абыходзіцца беларускі пейзаж. Менавіта з дзіцячых уражанняў бусел і "заляцеў" у яго будучую вядомую песню "Буслы". "Буслы" упершыню прагучалі ў беларускім фільме рэжысёра Віктара Турава "Вайна пад стрэхамі", які з'явіўся на экране ў 1971 годзе.

У 1965 годзе Уладзімір Высоцкі наведвае Беларусь для здымкаў у кінапробах фільма "Я родам з дзяцінства". У перыяд з 1966 па 1971 год ён прымаў удзел на студыі "Беларусьфільм" у здымках кінастужак "Саша-Сашанька", "Вайна пад стрэхамі", "Я родам з дзяцінства" і іншых.

У 1973 годзе, ажыццяўляючы сваю першую замежную паездку, Уладзімір Высоцкі на сваім цёмна-шэрым "Рэно-16" праязджае па дарогах нашай краіны з прыпынкам у Мінску ў беларускіх сяброў. За рулём аўтамашыны паэт складае верш "Дорогі... дороги", радкі з якога прысвечаны беларускім дарогам.

*...Ах дороги узкие,*
*вкось наперерез!*
*Версты белорусские*
*с ухабами и без...*

**Падборку падрыхтавала Аляксандра САФОНАВА.**

## ПУСТАЗЕЛЛЕ... АЛЕ ЛЯКАРСТВА

***Чула, што адна жанчына макрыцай вылечыла мастапатыю, другая — валляк. Ці магчыма такое?***

**Ніна КАРАНКЕВІЧ, жыхарка райцэнтра.**

У навуцы макрыцу называюць зоркаўка сярэдняя, у народзе — канавод, мылоўнік (пеніцца ў вадзе). Усяго яе каля 100 відаў, але растуць яны на ўрадлівых глебах па мокрых месцах. Многія віды яе лічацца некалькі ядавітымі (коні не ядзяць), а вось самую распаўсюджаную ў Беларусі зоркаўку сярэднюю ўжываюць у ежу, гатуюць сáлаты, прыправы, пасты, супы, начынкі для пірагоў.

У народнай медыцыне выцяжкі зоркаўкі выкарыстоўваюць пры мастапатыі, гемароі, валляку (зоб), рэўматызме, радыкуліце, паліартрыце, расцяжэнні звязак, ацёках ног. Для гэтага бяруць 10 сталовых лыжак свежай травы, вытрымліваюць на малым агні ў 1 літры вады 10-15 мінут. Выкарыстоўваюць як вонкавы сродак для ваннаў, абмыванняў, прымочак. Такія працэдуры карысныя і пры лячэнні розных скураных захворванняў.

Сок са свежай расліны прымаюць па чайнай лыжцы тры разы ў дзень пры малакроўі, цынзе, рэзях у страўніку, крывавай ірвоце.

Пры захворванні сэрца, печані, лёгкіх, маткі п'юць настоі. Сталовую лыжку травы заліваюць 200 мл вару, настойваюць 4 гадзіны і прымаюць па сталовай лыжцы 3-4 разы на дзень.



## Прырода і мы

## ПАШКАДУЙЦЕ КУСЦІКІ ЧАРНІЦ

Дікарослыя пладова-ягадныя расліны і грыбы адносяцца да рэсурсаў, якімі можна карыстацца доўгі час. Але пры адной умове: пры выкарыстанні павінны ўлічвацца біялагічныя асаблівасці, звязаныя з іх аднаўленнем. Калі ж грэбаваць гэтымі правіламі, то ў асобных выпадках пэўны від можа поўнасцю знікнуць. Асабліва адчувальныя брусніцы, чарніцы, журавіны, буякі, баравікі, лісічкі — самыя, бадай, карысныя дары лесу.

Людзі ідуць у лясы, усялякімі спосабамі імкнуцца сабраць як мага болей ягад, грыбоў. Пры гэтым ужываюцца самыя варварскія метады, выкарыстоўваюцца забароненыя прыёмы, розныя прыстасаванні. Нярэдка на балотах ужо ў жніўні збіраецца ўвесь ураджай журавін, яшчэ не зусім спелых. І калі такім чынам і далей будзе весціся збор, то вельмі хутка грыбным і ягадным угоддзям будзе нанесены непапраўны ўрон.

Усім вядома выказванне, што лес — наш, яго багацці — нашы. Дык ці ж можна іх знявечваць сёння так, каб заўтра яны нікому не засталіся?



**Згубленае пасведчанне вязня на імя Леаніда Мікалаевіча Хітракова лічыць несапраўдным.**

## З МАЛАНКАЙ НЕ ЖАРТУЮЦЬ

Як правесці выхадныя дні, каб адпачынак прынёс найбольшую карысць? Лепей за ўсё — на свежым паветры.

Не трэба недаацэньваць небяспекі, калі падчас вандроўкі вы трапілі ў навальніцу. Многія баяцца грому. Але ж ён толькі пужае. А вось маланка сапраўды нясе вялікую небяспеку.

Яна часта трапляе ў дрэвы, што растуць асобна, у слупы, узгоркі, камяні, стагі сена, лініі электраперадач. Таму хавацца трэба ў канаве, яміне. А калі вакол роўнае месца, можна легчы проста на зямлю і перачакаць, пакуль навальніца скончыцца. І па вадзе маланка добра б'е. Таму не рызыкуйце, трымайцеся падалей ад вадаёма. Надзейным сховішчам лічацца кусты ці лясны гушчар, сюды маланка не трапляе. Калі ж здарылася, што вы апынуліся паміж дрэвамі, якія стаяць у адзіночку, лепш быць метраў 15 ад іх.

У змешаным лесе апрача дубу найбольш часта маланка ўдарае ў таполю, елку, сасну, радзей — у бярозу, ліпу, клён і амаль не кранае арэшнік.

## ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД,
### помещенный в № 54 за 17 июля 2000 года

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ: 4.** Сморчок. **7.** Суперфосфат. **10.** Борозда. **12.** Скворец. **15.** Болото. **16.** Осоед. **18.** Квакша. **19.** Лист. **20.** Губа. **21.** Редис. **22.** Вишня. **23.** Крот. **25.** Клык. **27.** Погода. **28.** Ситро. **29.** Аварцы. **30.** Нителла. **32.** Баранов. **35.** Систематика. **36.** Цимбалы.

**ПО ВЕРТИКАЛИ: 1.** Змееед. **2.** Дрофа. **3.** Корсак. **5.** Суходол. **6.** Бабочка. **8.** Подосиновик. **9.** Механизатор. **11.** Аист. **12.** Снег. **13.** Полевод. **16.** Осмос. **17.** Дупло. **23.** Камелия. **24.** Тина. **25.** Краб. **26.** Казарка. **31.** Летник. **33.** Артель. **34.** Амеба.

**Раённы выканаўчы камітэт, раённы савет дэпутатаў** выказваюць глыбокае спачуванне **Раісе Валянцінаўне МАРОЗ** з выпадку смерці **МУЖА.**

**Калектыў работнікаў райсельгасхіміі** выказвае глыбокае спачуванне **Марыі Антонаўне ІВАНІЦКАЙ і яе СЯМ'І** з выпадку дачаснай смерці **БРАТА, ШВАГРА, ДЗЯДЗЬКІ.**

**Л.Б.Храмовіч** выказвае глыбокае спачуванне **Раісе Аляксандраўне СКУДНАЙ і яе СЯМ'І** з выпадку смерці **СВЯКРУХІ, МАЦІ, БАБУЛІ.**


**Рэдактар Пятро СУРЫНОВІЧ**

*Заснавальнікі:*
*Кіраўскі раённы выканаўчы камітэт,*
*Кіраўскі раённы Савет дэпутатаў,*
*рэдакцыя газеты "Кіравец"*

Рэгістрацыйны № 285.
Падпісана да друку ў 17 гадзін.

Наш адрас: *Рэспубліка Беларусь, 213940, Магілёўская вобласць, г. п. Кіраўск, вул. Пушкінская, 15.*
Тэлефоны: *рэдактар 21-2-63, намеснік рэдактара, адказны сакратар, аддзел грамадска-палітычнага жыцця 21-5-69, аддзелы аграпрамысловага комплексу і экалогіі, пісьмаў і сацыяльных праблем 21-5-35, бухгалтэрыя 21-4-76, спецыялісты настольна-выдавецкай сістэмы 21-3-93.*

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і сапраўднасць фактаў.*
*Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.*
*Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

*Аб'ём — адзін друкаваны аркуш*
*Газета выходзіць у сераду і суботу на беларускай мове.*
*Індэкс газеты - 64077. Заказ 3540.*
*Бабруйская ўзбуйнёная друкарня імя Непагодзіна, вул. Сацыялістычная,103.*
*Друк афсетны. Тыраж ліпеня 2777.*